

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# наша СЛОВА.pdf

**Трэці год выдання** **№ 5 (109) 31 студзеня 2024 г.**

# Да Дня беларускай навукі

26 студзеня ў НББ працавала маштабная выстава, прымеркаваная да Дня беларускай навукі, які адзначаецца ў апошнюю нядзелю студзеня. Арганізатарам мерапрыемства выступіў Беларускі інстытут сістэмнага аналізу і інфармацыйнага забеспячэння навукова-тэхнічнай сферы.

Навукова-даследчыя інстытуты і цэнтры, якія працуюць у рамках Нацыянальнай акадэміі навук, прадставілі ў НББ свае найлепшыя распрацоўкі, вынікі дзейнасці і праекты ў розных галінах: у энергетыцы, у металургіі, оптыка-механічнай, хімічнай, біялагічнай прамысловасці, вытворчасці ўгнаенняў, у сферы аховы здароўя і вытворчасці медпрэпаратаў, у прыродаахоўнай сферы.

Таксама на выставе дэманстраваліся аграпрамысловыя і інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі.

Нацыянальная бібліятэка прадставіла свае інтэрнэт-рэсурсы, створаныя з мэтай захавання звестак аб гістарычна-культурнай спадчыне: анлайн энцыклапедыю "Беларусь у асобах і падзеях", "Банк звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне рэспублікі Беларусь" і іншыя рэсурсы. Анлайн-энцыклапедыя захоўвае звесткі пра вядомых людзей Беларусі, помнікі гісторыі і культуры, археалогіі і горадабудаўніцтва, творчыя калектывы і грамадскія арганізацыі.

На выставе цікава было пазнаёміцца з маладымі навукоўцамі, якія прагнуць зрабіць свой асабісты ўнёсак у тэхнічны прагрэс і развіццё краіны. Яны дасведчаныя, мэтанакіраваныя і апантаныя сваімі даследаваннямі.

Прадстаўнікі ТАА "Пеленг" прадэманстравалі макет апарата для аэракасмічнай прамысловасці, які можа фатаграфаваць паверхню Землі, а здымкі, выкананыя з вышыні змогуць паслужыць для эфектыўнай працы сельскай гаспадаркі, горадабудаўніцтва, альбо абароны лясных масіваў ад пажараў.

Маладыя навукоўцы з Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў паведамілі пра стварэнне каталога прыродных крыніц з чыстай вадой і прадэманстравалі яго. Каталог, які быў створаны эколагамі, захоўвае інфармацыю пра 1183 крыніцы ў розных рэгіёнах Беларусі, мапы і фотаздымкі.







Беларускі Гідраметцэнтр будзе адзначаць у 2024 годзе сваё 100-годдзе. Супрацоўнікі Гідраметцэнтра паведамілі пра сістэматычны збор інфармацыі аб надвор'і, які вядзецца штодня. А ўсяго ў свеце працуюць каля 12 000 метэастанцый, якіяназіраюць за надвор'ем і рэгістрыюць кожныя тры гадзіны паказчыкі тэмпературы, хуткасці ветру і руху аблокаў.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*



№ 5 (109) 31 СТУДЗЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# 100 ідэй для Беларусі

У Гародні адбыўся абласны тур праектаў "100 ідэй для Беларусі".

Лідскі раён прадстаўлялі 6 праектаў па розных намінацыях.

Дзеці прадэманстравалі свае працы для экспертаў, распавялі пра свае праекты.








У намінацыі Энергетыка, у тым ліку атамная энергетыка, і энергаэфектыўнасць перамогу атрымаў Падвойскі Ян, з праектам " Ветрарухавік з вертыкальнай воссю кручэння без моманту супраціву пры руху лопасці










супраць ветру".Віншуем Яна і жадаем вялікіх поспехаў на рэспубліканскім туры моладзевага праекта "100 ідэй для Беларусі ".

Талайкоўская Юлія з праектам "Выкарыстанне лазераў для ачысткі старажытных металічных манет" стала пераможцам у анлайн галасаванні Гарадзенскага абласнога тура рэспубліканскага моладзевага праекта "100 ідэй для Беларусі".

***ТК "Культура Лідчыны"..***





# Радзіма мая Беларусь у асобах. Славутыя імёны ў навуцы і адукацыі

25 студзеня 2024 у сярэдняй школе № 5 г. Ліды ў рамках інфармацыйна-адукацыйнага праекта ШАГ прайшла сустрэча навучэнцаў VIII - XI класаў з навуковым супрацоўнікам Лідскага гістарычна-мастацкага музея Аляксандрам Часлававічам Хітруном на тэму "Радзіма мая Беларусь у асобах. Славутыя імёны ў навуцы і адукацыі".




Госць расказаў навучэнцам, адкуль родам, - шчыра і аддана згадаў пра сваю малую радзіму Крупава, што на Лідчыне. Расказаў, дзе атрымаў сваю першую адукацыю, сярэдне-спецыяльную і дзве вышэйшыя. Асноўны акцэнт быў зроблены ім на працу ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі (а менавіта, у яго аб'екце Доме Валянціна Таўлая), які стаў частку яго біяграфіі, у гэтай установе ён знайшоў сябе. Падзяліўся ён і сваімі даследаваннямі, што праводзіць у музеі, накірунак якіх - знайсці цікавыя факты і падзеі ў жыцці і творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў, якія пакінулі свой след на Лідчыне. Асноўны пакуль герой у даследчай дзейнасці - беларускі паэт Валянцін Таўлай, якому ўжо не за гарамі будзем адзначаць 110 год









з дня нараджэння. Госць запрасіў навучэнцаў наведаць Дом паэта, дзе яны даведаюцца больш падрабязна як пра сёлетняга юбіляра, так і пра іншых творцаў, а таксама пра праекты, якія арганізаваны ў гэтым будынку.

А. Хітруном былі зачытаны вершы, гумарыстычныя замалёўкі. На завяршэнні адказаў на пытанні навучэнцаў.

Хочацца спадзявацца, што цікавасць да гісторыі рэгіянальнай беларускай літаратуры праявіцца ў навучэнцаў і яшчэ лепш, калі яны далучацца да кагорты літаратараў Лідчыны і пакінуць у сваёй біяграфіі таксама значны след на карысць Беларусі.

*ТК "Культура Лідчыны".*



№ 5 (109) 31 СТУДЗЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Таццяна - слаўнае імя!

27 студзеня ў менскай бібліятэцы № 1 імя Льва Талстога прайшла юбілейная 15-я вечарына Паэтычнага тэатра "Арт.С" "Таццянін дзень" (свята ў гонар хрысціянскай пакутніцы і заступніцы студэнтаў). Вечарыны "Таццянін дзень" праводзяцца штогод у бібліятэках і музеях горада Менска, пачынаючы з 2010-га года спачатку ў рамках мерапрыемстваў Паэтычнага тэатра "Арт.С" (да 2019 года ўключна), а з 2020 года да гэтага святкавання падключыўся і літаратурны клуб "Экватар". Дарэчы, "Таццянін дзень" з'яўляецца самым працяглым сярод усіх праектаў Паэтычнага тэатра "Арт.С".

У вечарыне прынялі ўдзел беларускія паэты, барды, празаікі, музыканты і навукоўцы, сярод якіх была і Таццяна - вядоўца імпрэзы, паэтка і літаратуразнаўца, перакладчыца і празаік Таццяна Барысюк. Але адкрыла вечарыну прадстаўніца іншага імя, Вольга Воінская - саксафаніст і піяніст, кампазітар, спявачка і педагог. Разам са сваімі вучнямі яна выканала шэраг вядомых святочных мелодый, а таксама ўласны музычны твор на піяніна.



Лацінская прымаўка кажа: "Nomen est omen" ("Імя - гэта лёс"). Імя Таццяна перакладаецца з грэчаскай мовы як "арганізатарка", "наладжвальніца", "заснавальніца", а святую Тацiяну Рымскую (у гонар якой і адзначаецца свята) аднолькава шануюць як у праваслаўнай, гэтак і ў каталіцкай цэрквах. Гэтае імя з'яўляецца шырока распаўсюджаным і на Беларусі. Сярод Таццян шмат вядомых дзеячаў культуры і вучоных - Т. Алешка, Т. Аляшкевіч, Т. Аўтуховіч, Т. Барысюк, Т. Вабішчэвіч, Т. Дасаева, Т. Кабржыцкая, Т. Мацюхіна, Т. Сівец, Т. Шамякіна, Т. Фіцнер і інш. Нямала гісторый, звязаных з Таццянамі, было распаведзена і на мерапрыемстве. Гучалі і ўласныя вершы, прысвечаныя Таццянам і не толькі, знітаваных тэматыкай кахання і высокіх пачуццяў. Вядоўца вечарыны, паэтка Таццяна Барысюк, прачытала багата сваіх вершаў, а таксама распавяла пра паходжанне імя Таццяна, пра гісторыю ўтварэння свята студэнтаў "Таццянін дзень". Таццяну Барысюк можна і саму назваць адвечным навучэнцам, бо ёй шмат давялося вучыцца: закончыла педвучылішча №1, пасля філфак БДУ, аспіран-







туру Інстытута літаратуры НАН Беларусі, курсы дыктараў і вядоўцаў тэлерадыёперадач, курсы кінафотамадэляў і фотамастакоў, курсы кройкі і шыцця, польскай і французскай моў, камп'ютарнай графікі, Беларускі калегіюм, Школу практычнай генеалогіі. Так што, Таццяны любяць вучыцца!



Цяпер жа Тацццяна Барысюк працуе ў навуцы - у Інстытуце літаратуразнаўства НАН Беларусі, піша дысертацыю "Ідэйна-жанравыя пошукі ў



сучаснай беларускай паэзіі", напісала яшчэ 5 аб'ёмных навуковых прац ("Сон у сучаснай беларускай і польскай паэзіі", "Традыцыі англійскага і польскага рамантызму ў сучаснай беларускай паэзіі", "Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі", "Нацыянальныя вобразы свету і чалавека ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі", "Канцэпты "сваё" і "чужое" ў сучаснай беларускай і брытанскай англамоўнай паэзіі"). Яна аўтар больш за 150-ці літаратуразнаўчых і крытычных публікацый. Цяпер піша навуковую працу пра ўсходнія формы ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі. З'яўляецца аўтарам паэтычнага зборніка "Аўтапартрэт" (2002).

Выступіла і яшчэ адна прадстаўніца гэтага слаўнага імя, паэтэса Тацццяна Пратасевіч, якая дэкламавала як класічныя вершы, так і створаныя ёй хоку - монастрафічныя трохрадковыя вершы, жанр японскай паэзіі.

Пачулі прысутныя і кіраўніка літаратурнага клуба "Экватар" Вячаслава Корбута, які прысвяціў шмат слоў удзячнасці вядоўцы вечарыны Тацццяне Барысюк, якая вось ужо як 15 гадоў запар праводзіць гэтыя імпрэзы, узвальваючы увесь цяжар іх арганізацыі на свае кволыя жаночыя плечы.

Паэтэса Ксенія Ярмілава прачытала свае вельмі лірычныя, глыбакадумныя вершы, якія ўражваюць метафарамі і сілай пачуццяў. Пра свае думкі, пачуцці і ўражанні ад навакольнага свету распавёў Юрась Нераток, маці якога таксама звалі Тацццянай. Уразіла выступленне і аднакурсніка Тацццяны Барысюк Алеся Туровіча, які захапляецца эзатэрычнымі ведамі, а ягоны зборнік "Корпус" (1998) у свой час адным з першых з'явіўся ў беларускім інтэрнэце. Гучалі на вечарыне не толькі ўласныя вершы, але і беларускіх класікаў. Так, вучаніца Арнэла Давыдовіч зачытала на памяць прысутным верш Максіма Багдановіча. Ствараў музычную атмасферу і таленавіты паэт і бард Зміцер Захарэвіч, аўтар электроннай кнігі "Лірыка з элементамі радзімы і паганства".

Чакалі прысутных гасцей-эрудытаў і памятныя прызы падчас адпаведнай тэматычнай віктарыны. Шмат пытанняў датычылася творчасці менавіта Тацццян (Мушынская, Сівец), але згадваліся і творы беларускіх паэтаў, якія прысвячалі Тацццянам свае вершы.

Віншуем усіх Тацццян з гэтым прыгожым святам!

*Алег Грушэцкі.*





# Нацыянальная музыка як аб'ект захаплення і навуковага даследавання

Працягваецца цыкл лекцый-канцэртаў, якія праводзіць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі Музычная капэла Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры пад кіраўніцтвам Галіны Паўлаўны Цмыг з мэтай папулярызацыі беларускай музычнай спадчыны.

Канцэрт 25 студзеня стаў апошнім акордам Калядных святак, на ім прагучалі духоўныя спевы і народныя канты.

- Інструментальная, харавая, сольная беларуская музыка знаходзіцца ў цэнтры ўвагі капэлы і з'яўляецца аб'ектам мастацтвазнаўчага даследавання і выканання, - засведчыла кіраўніца калетыву Галіна Цмыг.



Падчас канцэрту прагучалі творы Людмілы Жукавай, Андрэя Саўрыцкага, Алега Глямбіцкага, Кацярыны Гігевіч і іншых сучасных беларускіх кампазітараў.

Слухачоў узрадавалі спевы "Вяснавое шчабятанне", "Ледзь дыхнула вясна", а таксама песня на словы Нэлі Тулупавай - "Чараўніца".

Велічна і ўрачыста прагучала ў выкананні капэлы песня Нестара Сакалоўскага "Нёман" на словы А. Астрэйкі.

Маргарыта Кучук выканала арыю з беларускай оперы "Калючая ружа" Юрыя Семянякі, якая гучала ў 60-тыя гады ў Вялікім оперным тэатры ў Менску.

Падчас канцэрту-лекцыі Галіна Паўлаўна Цмыг нагадала пра лёс беларускай паэткі Нэлі Тулупавай (1938 - 2001).



Музыку на яе вершы пісалі кампазітары: Ю. Семяняка, Б. Фёдараў, І. Кузняцоў, І. Лучанок, Э. Ханок, Э. Зарыцкі, А. Канстанцінава, Н. Мікуліч, В. Сярых, Ул. Буднік, Ул. Прохараў, Ул. Кур'ян, В. Макеева, Л. Шурман, Г. Гарэлава, В. Кузняцоў.

Яе паэзія вызначалася патрыятычнасцю, эмацыйнасцю, песеннасцю.

Абпаленае вайной дзяцінства было не з лёгкіх, а сталае жыццё пачыналася з навучання самай гуманнай














на зямлі прафесіі медыка. У 1955 годзе Нэлі Тулупава скончыла Гомельскае медыцынскае вучылішча, працавала фельчарам і акушэркай у медыцынскіх установах Віцебшчыны, дыктарам Віцебскага абласнога тэлебачання. У 1969 годзе яна скончыла завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1962 годзе пераехала ў Горкі Магілёўскай вобласці, дзе працавала інструктарам РДК, медсястрой у бальніцы.

Нэлі Тулупава працавала рэдактарам газеты "Советский студент" Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1974-1978 гадах яна была загадчыкам рэпертуарнага аддзела Белдзяржфілармоніі, у 1979-1988 гадах - старшым рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура". З 1990 года яна працавала загадчыкам аддзела літаратуры часопіса "Вожык".

У канцы зямнога шляху беларуская паэтэса прыняла пострыг ў манастыры пад імем Неаніла.

Святочны канцэрт у Нацыянальнай бібліятэцы падрыхтавалі капельмайстар Святаслаў Рачэўскі, хор-майстар - Жанна Філіповіч. Кіраўніца музычнага калектыва паведаміла аб тым, што рыхтуецца да выпуску ў красавіку спецыяльнае выданне, прысвечанае беларускай нацыянальнай музыцы, куды ўвойдуць нотныя тэксты, якія вывучалі супрацоўнікі капэлы, і каментары да іх.

*Э. Дзвінская,*
*фота аўтара.*



№ 5 (109) 31 СТУДЗЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# 85 год Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі



24 студзеня 1939 года ў Менску адкрылася карцінная галерэя, якая пазней стала Нацыянальным мастацкім музеям Беларусі. Пра важнасць музея і людзей, якія працавалі і працуюць у ім, кажа экс-супрацоўнік музея, экскурсавод і ўсходазнавец Мікіта Моніч:

- Нацыянальны мастацкі - гэта тая самая нацыянальная скарбонка, у якой сабрана вялікая колькасць спадчыны. Нацыянальны музей заўсёды добра адлюстроўвае жыццё, гісторыю краіны, нацыі і грамадства. Нацыянальны беларускі музей - гэта гісторыя пра адраджэнне калекцыі, якая амаль цалкам была страчаная падчас Другой сусветнай. Падзвіжніцкая дзейнасць Аладавай і цэлых пакаленняў гісторыкаў мастацкага, музейшчыкаў, якія паслядоўна стварылі тое, што мы маем.



Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь на сёння - гэта найбуйнейшы ў краіне збор нацыянальнага і замежнага мастацтва, дзе захоўваецца больш за 30 тысяч экспанатаў, якія фармуюць 20 калекцый помнікаў мастацтва Беларусі, краін і народаў свету.

***Наш кар.***

# Да 100-годдзя Васіля Быкава

25 студзеня ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава да юбілею Васіля Быкава, які адзначаецца ў гэтым годзе. Тут душа адпачыла ў супакаенні: знаёмыя, прыемныя сустрэчы, гутаркі, цудоўная выстава!






***Таня Лаўрык.***




# Лідскі замак у 2023 годзе наведалі больш за 103 тысячы турыстаў

Лідскі замак - унікальны помнік архітэктуры XIV стагоддзя, які заўсёды адчынены для наведвання. Толькі за мінулы год замак наведалі больш за 103 тысячы чалавек. Было праведзена больш за дзве тысячы экскурсій.





- Супрацоўнікі музея ўвесь час знаходзяцца ў пошуку інавацыйных і нетрадыцыйных формаў працы. Так, намі распрацаваны новы квэст для школьнікаў "Артэфакт", які накіраваны на развіццё ў навучэнцаў уменняў і навыкаў у навукова-даследчай дзейнасці, запланаваны майстар-класы па размалёўцы драўлянай нарыхтоўкі ў форме Лідскага замка для дзетак з абмежаванымі магчымасцямі. Сёлета ў нас таксама стартуе інклюзіўны праект "Лідскі замак для ўсіх і кожнага". Мы хочам зрабіць замак даступным для ўсіх, хто жадае дакрануцца да гісторыі, -



адзначыла загадчыца экспазіцыйна-выстаўнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ганна Некрашэвіч.

*ТК "Культура Лідчыны".*

# Віншуем "Забавушку" з поспехам

Узорны ансамбль танцу "Забавушка" з перамогай вярнуўся з Рэспубліканскага фэсту мастацтваў "PRO100fest".








Лаўрэат II ступені - танец "Вясёлыя прачкі" (настаўнік Бабарына І.В.)

Лаўрэат II ступені - танец "Качачка лугавая" (настаўнік Качарская П.А.)

Бабарына Ірына Віталеўна і Качарская Паліна Аляксандраўна ўзнагароджаны Падзякай за падрыхтоўку да фэсту!

*ТК "Культура Лідчыны".*





# Прэзентацыя кнігі Аляксандра Мацулевіча "Бронзавы Гедымін: лідскія рыфмаваныя мініяцюры"

На сустрэчы літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце" 24 студзеня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшла прэзентацыя кнігі Аляксандра Іосіфавіча Мацулевіча "Бронзавы Гедымін: лідскія рыфмаваныя мініяцюры". На вечар памяці паэта і журналіста прыйшлі сваякі, сябры, пісьменнікі і паэты, усе тыя, хто яго добра ведаў і шанаваў. Успаміналі таленавітага журналіста яго калегі: Кацярына Серафіновіч, Станіслаў Суднік, Алена Несцерава, Ганна Гайдукевіч, Уладзімір Касяровіч.










Першы раздзел кнігі - свайго роду вершаваны летапіс (далёка не поўны) падзей 1941-1945 гадоў на Лідчыне. Тут адлюстраваны і акупацыя немцамі Лідскага краю, і масавае знішчэнне акупантамі мірнага насельніцтва, і падпольны ды партызанскі рух, і доўгачаканае вызваленне Ліды, і некаторыя больш познія падзеі. Асаблівасцю выдання стала наяўнасць некалькіх вершаў для















дзяцей, у тым ліку "Беларуская азбука" - першы вопыт паэта стварэння вершаванай азбукі для дзяцей. Хочацца адзначыць, што ў кнізе аўтар шырока выкарыстаў жанр прыпеўкі - прыпеўкі чытач знойдзе і ў першым, і ў другім раздзелах, і сярод вершаў для дзяцей. Пасля кожнага верша ў кнізе пазначаны год напісання, чаго не было ў папярэдніх зборніках.

"Бронзавы Гедымін: лідскія рыфмаваныя мініяцюры" - апошняе пасланне нам - жывым, нашым дзецям і нашым унукам пра цудоўны горад Ліду. Тыраж кнігі невялікі, усяго 120 асобнікаў, таму кніга вельмі каштоўная для ўсіх тых, хто ведаў Аляксандра Мацулевіча.

Прэзентацыя прайшла ў светлай і добрай атмасферы ўспамінаў пра выдатнага чалавека, паэта, журналіста Аляксандра Іосіфавіча Мацулевіча з пажаданнямі яго кнізе добрых удзячных чытачоў.

*Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"*
***Кацярына Сандакова.***





# Віртуальнае падарожжа "Запаведнымі мясцінамі Белавежскай пушчы"

24 студзеня да Сусветнага дня запаведнікаў і нацыянальных паркаў бібліятэкары Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы ладзілі віртуальнае падарожжа "Запаведнымі мясцінамі Белавежскай пушчы". Вядоўцы пазнаёмілі прысутных з запаведнікамі Беларусі і ў мультымедыйнай прэзентацыі паказалі, у якіх абласцях яны размяшчаюцца. Затым усю ўвагу сканцэнтравалі на Белавежскай пушчы: дзе яна размешчана, якую тэрыторыю займае, якія флора і фаўна дамініруюць на розных тэрыторыях запаведніка.



Госці праглядзелі відэафільм пра Белавежскую пушчу, паспрабавалі свае сілы ў віктарынах пра запаведнікі. Да мерапрыемтсва была падрыхтавана выстава "Наш дом - Зямля", на якой былі прадстаўлены выданні пра запаведнікі Беларусі, асобна пра Бярэзінскі запаведнік, Белавежскую пушчу і выданні, прысвечаныя расліннаму і жывёльнаму свету беларускай прыроды.




*ТК "Культура Лідчыны".*

# Тэматычная гутарка "Зімовыя народныя святы"

17 студзеня філіял "Лідская гарадская бібліятэка №1" наведалі хлопчыкі і дзяўчынкі ДУА "Дзіцячы сад № 7 г. Ліды". У гэты дзень для іх ладзілася тэматычная гутарка "Зімовыя народныя святы". Вядоўца зрабіла паведамленне аб тым, як святкуюць Новы год, Божае Нараджэнне, Каляды ў многіх краінах. Напрыклад, з цікавасцю дзеці слухалі аповед аб гісторыі ўзнікнення навагодніх святаў, аб нацыянальных традыцыях сустрэчы Новага года ў розных краінах, прымалі актыўны ўдзел у розных конкурсах, адгадвалі загадкі, а таксама разам з вядоўцай здзейснілі круіз па зімовых казках, але самым цікавым, напэўна, быў прагляд навагодніх мультфільмаў і іх абмеркаванне.







*ТК "Культура Лідчыны".*





# Памёр дэпутат Незалежнасці Мікалай Аксаміт

Мікалай Аксаміт памёр у Ваўкавыску, яму было 69 гадоў. Была планавая аперацыя, але потым - пагаршэнне, у рэанімацыю даставілі тады, калі ўжо было позна.



Мікалай Аксаміт скончыў менскі тэатральна-мастацкі інстытут, быў мастаком - афарміцелем. У 1990 годзе ён быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання ад Ваўкавыскай гарадской выбарчай акругі №248.

У 1990 годзе ўдзельнічаў у распрацоўцы Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, галасаваў за абвяшчэнне незалежнасці Беларусі 25 жніўня 1991 г. Быў членам Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Актыўна працаваў у Ваўкавыскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, пэўны час узначальваў Ваўкавыскую раённую арганізацыю ТБМ.

11-12 красавіка 1995 года ўдзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазіцыі БНФ супраць рэферэндуму аб скасаванні беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і іншых пунктаў рэферэндуму.



***Барыс Гюнтар і Мікалай Аксаміт***

Працаваў у праваабарончым цэнтры "Аслона".

У 2018 годзе быў узнагароджаны медалём да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Вечная Памяць.

# Выступаў за ўвядзенне беларускай мовы ў рэлігійнае жыццё беларусаў-католікаў

*23 студзеня каталіцкаму святару заходняга абраду, рэлігійнаму і культурна-асветнаму дзеячу, пачынальніку беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя, пісьменніку, перакладчыку і публіцысту Францішку Будзьку (1884-1920) споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння.*



Нарадзіўся Францішак Будзька ў вёсцы Вознаўшчына Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Докшыцкі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і беларусаў-католікаў: бацькі - Караль і Кацярына (з дому Падрэзаў) Будзькі. Скончыў Вілейскую павятовую навучальню, а потым вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі.

У 1901-1905 гадах Францішак Будзька вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу, дзе пачаў перакладаць на беларускую мову рэлігійныя кнігі. Працягваў вучобу за свой кошт у Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі (1906). Праз год, па прычыне цяжкага матэрыяльнага становішча, юнак ад вучобы адмовіўся.

Пасвечаны ў святары Францішак Будзька быў у 1907 годзе. Душпастырскую дзейнасць распачаў у студзені 1908 года на пасадзе вікарыя ў Полацкім касцёле. Потым паехаў у Пецярбург, дзе служыў вікарыем і вёў заняткі ў Сестржанцэвіцкай павятовай навучальні пра касцёле св. Станіслава. Пасля 1917 года вярнуўся на Бацькаўшчыну і працаваў у Полацкім дэканаце. На працягу сваёй культурна-асветнай і рэлігійнай дзейнасці паслядоўна і актыўна выступаў за ўвядзенне беларускай мовы ў рэлігійнае жыццё беларусаў-католікаў. Матэрыяльна падтрымліваў выданне першай беларускай каталіцкай газеты "Bielarus" (Вільня, 1913-1915). Быў сябрам арганізацыйнага камітэта і ўдзельнікам Першага з'езда беларускага каталіцкага духавенства ў Менску вясной 1917 года. Адзін з пачынальнікаў беларускага каталіцкага выдавецкага руху.

З прыходам савецкай улады ў Беларусь Францішак Будзька праследаваўся органамі бяспекі. Паводле беларускіх гістарычна-рэлігійных крыніц памёр святар 2 студзеня 1920 года ў мясцовасці Янатруда на Полаччыне. Магіла не захавалася.

***Паводле СМІ.***





# Філарэт Антоні Адынец

*25 студзеня споўнілася 220 гадоў з дня нараджэння паэта, перакладчыка, выдаўца, сябра Таварыства філарэтаў Антона Адынца (1804-1885).*



Нарадзіўся Антон Адынец у шляхецкай сям'і на Ашмяншчыне. Вучыўся ў павятовай базыльянскай школе ў Барунах. У 1820 годзе Антон Адынец паступіў у Віленскі ўніверсітэт, каб вучыцца на юрыста. Даведаўшыся пра ўтварэнне ва ўніверсітэце таемнага Таварыства філарэтаў, адразу запісаўся ў яго, стаў сябрам літаратурнага аддзела (Блакітнага саюза), якім кіраваў прызнаны сярод філаматаў і філарэтаў паэт Ян Чачот. Убачыўшы яркія паэтычныя здольнасці Адынца, Чачот узяў яго пад сваю апеку. За гэта сябры прazвалі Чачота Ментарам, а Адынца - Тэлемакам (паводле грэчаскай міфалогіі Ментар быў выхавальнікам Тэлемака, сына Адысея і Пенелопы).

У 1823 годзе, калі было выкрыта Таварыства філарэтаў, Антона Адынца арыштавалі і кінулі ў турму, адкуль яго з сябрамі выпусцілі толькі ў канцы следства.



***Міхал Эльвіра Андрыёлі. Антоні Адынец і Адам Міцкевіч на вяршыне вулкана Везувія***

Вельмі даражыў Антон Адынец сяброўствам з Адамам Міцкевічам. Калі высланы ў Расею старэйшы сябар намерыўся выехаць адтуль за мяжу, сваім спадарожнікам у паездцы па краінах Еўропы ён выбраў Антона Адынца.

Сябры аб'ездзілі многія гарады і паселішчы Германіі, Італіі, Швейцарыі, іншых краін. Антон Адынец разам з Адамам Міцкевічам гасцілі ў нямецкага паэта І.В. Гётэ ў Веймары. У шматлікіх размовах з двума славянскімі паэтамі, вялікі нямецкі паэт вельмі зацікавіўся народнымі песнямі, матывы якіх выкарыстоўваў у сваёй творчасці Адам Міцкевіч. "Гётэ, - прыгадваў Адынец, - з жывой цікавасцю распытваў і слухаў тое, што Адам, а часткова і я, расказвалі яму аб разнастайнасці і адрозненнях у характары і тоне песень нашых правінцый". А "правінцыямі" Міцкевіча і Адынца былі Наваградчына і Ашмяншчына. Значыць, якраз беларускія народныя песні зацікавілі Гётэ, які за абедзенным сталом пачутае пра гэтыя песні "амаль слова ў слова" пераказваў потым іншым, напрыклад, свайму сакратару, нямецкаму пісьменніку Экерману.

У 1837 годзе Антон Адынец вярнуўся ў свае родныя Гейстуны на Ашмяншчыну, а потым пераехаў у Вільню, дзе амаль дваццаць гадоў - з 1840 па 1859 год - рэдагаваў урадавую газету на польскай і рускай мовах "Виленский вестник". Сямейныя абставіны прымусілі Адынца пераехаць у 1866 годзе ў Варшаву, услед за дачкой, якая выйшла замуж.

Памёр Антон Адынец у Варшаве, дзе і пахаваны. Сваю паэтычную дарогу пачаў ён даволі рана, яшчэ ў Барунскай школе. Але толькі ва ўніверсітэце, дзе сама атмасфера святасці да ўсяго ўзвышанага, само вірлівае студэнцкае асяроддзе спрыялі захапленню паэзіяй, Антон Адынец па-сур'ёзнаму ўзяўся за пяро. Сапраўдную папулярнасць прынесла яму "Песня філарэтаў", напісаная ў турэмным зняволенні ў 1823 годзе. Найбольш каштоўным творам у спадчыне Антона Адынца крытыка прызнала напісаныя ў 1875-1878 годзе "Пісьмы з падарожжа", даволі падрабязныя, з важнымі дэталямі і фактамі ўспаміны пра падарожжа ў 1829-1830 годзе з Адамам Міцкевічам па Еўропе. Вельмі добра дапаўняе "Пісьмы…" і кніга "Успаміны з мінулага", якая была напісана Адынцом на схіле жыцця і ў якой шмат цікавага, пазнавальнага пра мінулае нашай зямлі. Да канца жыцця не кідаў пісаць Антон Адынец і вершы. Найбольш удалыя з іх тыя, дзе аўтар звяртаўся да жыццёвых рэалій, да фальклору, пераважна беларускага. На фальклорных матывах заснавана, напрыклад, яго балада "Паланянка ліцвіна", пра захопленую "літоўскім" ваяром маладую польку ў час аднаго з баявых паходаў на польскія землі. Выразныя фальклорныя матывы відаць і ў баладах Антона Адынца "Сон Алесі", "Русалкі", у вершы "Хохлік" і ў іншых творах.

***Паводле СМІ.***





# Гальшанскі замак

Сярод шматлікіх замкаў нашай зямлі ёсць адзін малавядомы і да гэтага часу яшчэ не даследаваны гісторыкамі мастацтва - гэта Гальшанскі замак. Знаходзіцца ён у мястэчку Гальшаны і з-за таго, што яго дрэнна бачна з дарогі, замак рэдка згадваюць краязнаўцы, якія едуць па тракце Ашмяны - Гальшаны. Старыя моцныя муры замка тонуць сярод адвечных ліп. З-за зеляніны на дарогу глядзіць толькі сціплая ўязная брама.

Гэты замак быў пабудаваны ў выглядзе чатырохкутніка кожны бок якога мае ад 70 да 80 м, ён меў чатыры вуглавыя вежы і вялікую капліцу ці касцёльчык, убудаваную ў муры замка. Сёння ад замка мала што засталося, Але тое, што засталося, сведчыць пра магутнасць муроў і багацце, якое тут некалі было. Да нашага часу захавалася два бакі гэтага чатырохкутніка і капліца. Два іншыя бакі былі цалкам знішчаны часам і рукой чалавека, і сёння толькі пагоркі зямлі паказваюць, дзе раней стаялі сцены. Ацалела адна кутняя вежа, шасцігранная ў сваёй планіроўцы і эркер пасярэдзіне большага бока простакутніка. Ад замкавай капліцы захаваліся толькі сцены і дах. А рэшткі паліхроміі і багатае ўбранне ўнутранага інтэр'еру, сведчыць пра руплівасць і гаспадарлівасць былых уладальнікаў замка.

Найбольш цікавай дэталлю для даследчыка помнікаў мастацтва, ёсць надзвычай багаты другі паверх кутняй вежы. Яго шасцікутні інтэр'ер мае два акны і прыгожы камін з гербам Сапегаў Ліс, пакой багата арнаментаваны ў рэнесансных і барочных формах. Купальнае скляпенне гэтага пакоя падзелена карнізамі на невялікія часткі, утвараючы як быццам малюнак павуціння, дзе кожны простакутнік аздоблены паліхроміяй. На блакітным фоне - арнамент лісця аканфы, якое загнута ў розныя бакі ў залежнасці ад прасторы, якую яно ўпрыгожвае.

Да рэшты ацалелых муроў вядуць два выйсці. Адно з унутранага дзядзінца ў вялікія прадсені і незвычайна шырокія сходы з невялікім ухілам. Некалі, праўда-падобна, гэта быў галоўны, парадны ўваход. Другі, больш сціплы, знаходзіцца ля ўязной брамы. Ён вядзе ў шэраг высокіх і прасторных пакояў, якія анфіладай ідуць уздоўж усяго фасаднага боку замка. Першыя сходы вядуць на другі бок і сёння жылога замка. Пакоі гэтай часткі таксама вельмі прасторныя, з вялізнымі вокнамі заглыбленымі ў



*Гальшанскі замак, 1812 г.*

тоўстыя сцены і комінамі. Эркер мае форму падоўжанага авала, унутры мае багатае скляпенне, такое ж самае, як ужо было вышэй апісана.

Усе муры, якія захаваліся да нашага часу, атынкаваныя.

Аднапавярховая частка замка, месцамі мае вельмі прасторныя памяшканні, абапёртыя на некалькі слупоў, падобна, што ў мінулыя часы гэта частка была не жылой, бо пабудаваная з грубай цэглы, не атынкаваная і не мае вокнаў. Зараз тут часткова стайні і гаспадарчыя склады. Пад замкам маюцца вялікія падзямеллі і піўніцы.

Як абарончая пабудова, замак выкарыстоўвае з аднаго боку прыродныя балоты, а з другога, абарончыя равы, сляды якіх і сёння бачны месцамі ў выглядзе вялікіх ям ці да гэтага часу існага става.

Паліхромія, якая часткова захавалася ў капліцы і вуглавай вежы з камінам, не адрозніваецца асаблівай якасцю. У ёй адчуваецца прысмак нейкага мясцовага, няздольнага і дамарослага мастака. Але ў гэтым маецца і яе пэўная, вартая захавання і дэталёвага вывучэння, каштоўнасць.

Паводле падання, у Гальшанскім замку меліся і некалькі вялікіх маляваных палотнаў, налепленых на сцены пакояў, але іх, відаць, не існуе ўжо больш за некалькі дзясяткаў гадоў.

Як звычайна, з Гальшанскім замкам звязана легенда пра знаходжанне ў сцяне замураванага нябожчыка-рыцара ў даспехах і пустой місай каля яго. Знаходка рыцара, нібыта здарылася адносна нядаўна і яшчэ ёсць людзі, якія памятаюць, што падчас нейкай дробнай пераробкі была знойдзена маленькая каморка з рыцарам унутры яе. Гэтую каморку можна убачыць і сёння. Выглядае яна так, што і насамрэч было б цяжка здагадацца пра яе існаванне, і калі б не выпадак, рыцар і сёння быў бы ў каморцы. Нібыта, тагачасныя ўладальнікі замка адправілі багатыя даспехі ў адзін з музеяў Пецярбурга ці Масквы, а нябожчык рассыпаўся ў прах ад свежага паветра.

Увесь гэты прыгожы і цікавы помнік гісторыі, пакідае пасля сябе рамантычнае ўражанне. Ацалелыя муры даюць уяўленне аб веліч і вялізных маштабах замкавага падворка.

З вежы замка адкрываецца від на мястэчка і прыгожы барочны Гальшанскі касцёл, дзе знаходзіцца знакаміты саркафаг Паўла Сапегі разам з яго трыма жонкамі. Гэтае мармуровае надмагілле ёсць свайго кшталту, гістарычнай славутасцю. Бо рыцар, які ляжыць у даспехах, і тры дамы каля яго робяць несамавітае ўражанне.

Здаўна ў Гальшанскім замку знаходзіцца алейны партрэт, на якім паводле падання, намаляваны Павел Сапега. Цяжка сказаць, ці сапраўды гэта так, ва ўсялякім разе, ён зусім не падобны да Сапегі на саркафагу. А стыль партрэта хутчэй сведчыць пра яго паходжанне з першай паловы XVIII ст.

Усе гэтыя асаблівасці вельмі цікавыя і навукова не даследаваныя. Чэслаў Янкоўскі ў сваім "Ашмянскім павеце" дае кароткае апісанне замка, але, здаецца, сам ён у



Kominek w narożnej baszcie.

***Камін у кутняй вежы***

ім не бываў і карыстаўся чужой інфармацыяй.

Прыкладна за кіламетр ад мястэчка, на вельмі высокім узгорку, які пануе над усёй мясцовасцю, знаходзіцца старое гарадзішча. Нібыта, гэта першапачатковая сядзіба князёў Альгімунтавічаў-Гальшанскіх, нададзеная ім літоўскім князям Нарымонтам. Толькі з 1551 г., праз сваяцтва, зямля пераходзіць да Багдана Сапегі, і тады замак будуецца не на гарадзішчы, а на тым месцы, дзе ён стаіць сёння. Сын Багдана - Павел Сапега пашырыў і ўпрыгожыў замак. Кальвініцкі збор у мястэчку Гальшаны ён аддаў францішканам, а мястэчка абдарыў ласкамі і прывілеямі. У XVIII ст. замкам валодалі Жабы, а потым па спадчыне ён перайшоў да Корсакаў.

Сёння Гальшанскі замак з'яўляецца маёмасцю сп. Ягміна, які ў ім жыве.

*Jotha. Zamek Halszanski // Slowo. 1936. № 265.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Найшоўныя лекі: Аляхновіч, Нікалаеў, Русель; нафта*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-4 (105-108) за 2024 г.)*

**З невялікімі зменамі - выпуск "Бюлетэня Беларуска-індзейскага таварыства", прысвечаны нафце ("Нафта", 20.12.2002).**

Нафта - прычына многіх бедстваў чалавецтва. Магчыма, яна сама па сабе і не такая кепская рэч, але факты сведчаць, што яна стварае напружанне, нагоду для барацьбы. Індзейцы, верагодна, даведаліся пра яе "карысныя" ўласцівасці аднымі з першых на зямлі. Пра выкарыстанне імі "газы" ў аднайменным нарысе пісала Цётка - "найноўшае лякарства". Ці магла падумаць пісьменніца і рэвалюцыянерка, што такая метамарфоза адбудзецца з умоўна карысным выкапнем? Што энергетыка не пойдзе нейкім іншым, больш рацыянальным і гуманным шляхам - напрыклад, праз памяншэнне апетыту і



Unocal Canada Limited
150 - 6th Avenue S.W., Box 999
Calgary, Alberta T2P 2K6
Telephone (403) 268-0176
FAX (403) 268-0153

UNOCAL 76

September 20, 1995

Fritz H. Perschon, Jr.
President and General Manager

Ales Simakou
Belarusian-American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049, Belarus

Dear Ms. Simakou:

Thank you for your letter of concern on behalf of the Lubicon Lake Indian Nation. We welcome the opportunity to address your misconceptions about Unocal's operations in the area, as it is clear from your letter that you have been seriously misinformed about this matter.

Unocal is very conscientious and responsible about resource development wherever we operate. We work hard at being a good neighbor and a responsible corporate citizen.

We would never have built this plant at this time if we had not believed that we had agreement from the Lubicons. That is why we approached the Lubicons to seek their concurrence with this development before any construction took place. Contrary to what you have been told, Unocal proceeded only after we received verbal and written agreement.

For reasons still unknown to Unocal, the Lubicons changed their minds once the project was 80% complete. Although Unocal believed it was totally inappropriate, at the request of the Lubicons, a lengthy public hearing was held to reinvestigate the issuing of the construction and operation permits. Throughout the 11-day hearing, Unocal executives, engineers and technical consultants provided extensive testimony documenting the health, safety and environmental soundness of the proposed sour gas facility. It was disappointing that these facts were never seriously challenged as that was the stated basis for the opposition and the hearing. We also detailed our systematic efforts to communicate this information to the Lubicons. The hearings allowed the Lubicons and their supporters ample opportunity to cross-examine our testimony and question the expert witnesses.

In a 30-page report detailing its findings, the Energy Resources Conservation Board concluded that "it believes the plant can be operated in a safe manner and should not represent any substantive risk to people living in the area or their future lifestyle on the proposed reserve".

. . ./2

***Letter from Fritz H. Perschon, Jr., President and General Manager, Unocal Canada Ltd. 1995-09-20 p. 1 of 2. RE Lubicon Cree***

Technical reports by independent environmental consulting firms made public at the hearings conclusively demonstrate that the sour gas operations would not pose any adverse health or environmental risk. In fact, with electrification, the new plant will eliminate existing emissions of approximately 1.3 metric tons/day of nitrogen oxides and 0.1 metric tons/day of carbon monoxide. We anticipate sulfur emissions to be less than half the licensed limit of 0.635 metric tons/day. Unocal intends to carefully monitor these emissions at both the site and on Lubicon land.

This plant is located 18 km south of the present community of Little Buffalo and a full 13 km south of the proposed new community on Lubicon Lake. The entire project is outside of the proposed reserve set aside and agreed to by the Alberta Government and the Lubicon Nation in the Grimshaw Accord. Remaining settlement disputes between the Federal Government and the Lubicon Nation are over cash compensation, not land. Unocal is delighted that a federal negotiator has been appointed. Although Unocal has no role in these negotiations, we hope a just and speedy settlement will result.

I want to reiterate that Unocal is committed to being a good neighbor to the Lubicons as we are to all people in areas where we operate. We will continue to openly and honestly share information and encourage two-way communications. Unocal Canada will also continue to extend our offer of skills training, employment and technical assistance to the Lubicons and otherwise try to help them in their efforts to retain a sustainable lifestyle.

I hope that having a fuller understanding of the facts will have reduced or eliminated your concerns.

Yours truly,

Fritz H. Perschon, Jr.

FHP/cl

***Letter from Fritz Perschon, Jr., President and General Manager, Unocal Canada (Calgary, Alberta) 1995-09-20 p 2 of 2***

патрэб, якіх у больш багатых больш?

Нафта як падстава для знішчэння індзейцаў пададзена, напрыклад, у апавяданні А. Барбюса "Крывавая крыніца" (бел. пер., 1929). Тым не менш, у той жа Аклахоме можна сустрэць індзейцаў, якія "нажываюцца" за кошт нафты. У. У. Кілер (William Wayne Keeler), правадыр плямені ("нацыі") чэрокі (метыс з двух бакоў), быў віцэпрэзідэнтам (пра што напісаў Міласлаў Стынгл (1930-2020) у кнізе "Індзейцы без тамагаўкаў"), а затым і прэзідэнтам (CEO) нафтавага канцэрна "Філіпс петролеум компані". У наш час нафтавыя кампаніі пагражаюць многім індзейскім групам, любіконам у Канадзе, плямёнам раёна Мадрэ-дэ-Дзьёс (Madre de Dios) у Перу.

У Беларусі вядомае Рэчыцкае радовішча нафты, а таксама шэраг нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў. Асобам, што працуюць або працавалі ў галінах прамысловасці, звязаных з нафтай, важна ведаць гэтыя і іншыя факты, каб лепш усведамляць тое, што яны ведалі і самі, многія - з часоў СССР: хоць падыходы ў здабычы, продажы і перапрацоўцы "чорнага золата" могуць быць "добрымі", сацыялістычнымі, і "кепскімі", капіталістычнымі, "імперыялістычнымі" яны могуць быць пры абедзвюх сістэмах, катэгорыі ў якіх ўжо зусім змяшаліся - у былых блоках назіраецца ідэалагічны і эканамічны вінегрэт. Але праблема неадназначных з'яў можа са-

